# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№ 2 (120)
2013 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


”Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай”.
**Ул. Караткевіч.**



**МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА**

## ТЭАТР АДНАГО АКЦЁРА

Прэс-канферэнцыя А.Лукашэнкі 15.01.2013 года сабрала больш за 350 журналістаў, што прадстаўлялі 285 сродкаў масавай інфармацыі. Доўжылася яна больш за пяць гадзін, цягам якіх Прэзідэнту было зададзена больш за 60 пытанняў. Але анічога новага, цікавага, на мой погляд, у адказах не было. Абсалютна ўсе выказванні першай асобы рэспублікі, якія прагучалі, мы ўжо неадночы чулі на мінулых падобных шоу.

Як правіла, журналісты дзяржаўных СМІ ставілі пытанні, адказ на якія ім самім быў даўно вядомы. Яны тычыліся нашых “дасягненняў” ці каментараў вядомых падзей апошніх часоў. А таму кіраўнік краіны адчуваў сябе пры адказах, нібы рыба ў вадзе. Але варта было прагучаць пытанню нязручнаму, як вышэйшая асоба на вачах пераўтваралася ў асобу раздражнёную, якая контратакавала суразмоўцу сустрэчнымі пытаннямі, старалася збіць яго з тэмы і перавесці гутарку ў іншую плоскасць. І, трэба заўважыць, гэта яму даволі часта ўдавалася. Што ж, трэба прызнацца, што прамаўляць ледзь не за 40 гадоў свайго палітрукоўска-дырэктарска-прэзідэнцкага жыцця Лукашэнка навучыўся. Вядома, што тое не мяшкі насіць, асабліва не стомішся.

Калі параўноўваць нашага героя з ім самім узору 90-х гадоў мінулага стагоддзя, то прагрэс адчуваецца ва ўсім. Цяпер яго нельга ўзяць голымі рукамі. На любое нязручнае яму пытанне ў яго ёсць загадзя падрыхтаваная мадэль паводзін, у якой няма месца слязам ці праяўленню іншых слабасцей. Ён загаворвае праблему, пераварочвае яе ў іншую плоскасць, вяртае пытанне таму, хто яго задаў і г.д. І канкрэтнага адказу на большую палову пытанняў, якія яму задалі, я не пачуў! Акрамя агучвання вядомых фактаў і суцэльнай гаварыльні не па тэме, часта на ўзроўні вясковых плётак, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь на сваёй прэс-канферэнцыі анічога сказана не было. І гэта не толькі маё меркаванне, а думка большыні маіх суразмоўцаў, якія з нейкай нагоды яго слухалі. Але ўсё ж большыня маіх знаёмых падобныя мерапрыемствы не надзяляе ўвагай. То бок, гэты аб’ект становіцца народу ўсё больш і больш непапулярным.

Варта дадаць, што журналістам, якія прадстаўляюць незалежныя медыі, ідучы на сустрэчу з кіраўніком трэба добра рыхтавацца. Трэба аналізаваць тыя мадэлі паводзін, якімі найчасцей карыстаецца наш лідэр, знаходзіць іхнія хібы і карыстацца гэтым. Трэба лавіць яго на слове, калі тут жа на прэс-канферэнцыі ён дае свае адвольныя каментары розных падзей, і контратакаваць самім. Інакш у многіх беларусаў яшчэ складваецца павярхоўнае ўражанне аб ім, як аб нястомным барацьбіце за праўду і клапатлівым бацьку-абаронцу інтарэсаў працоўных.

**Г.Станкевіч.**

<u>*У.Высоцкаму – 75 гадоў*</u>

### *Песня пра зоркі*

*Ў гэтым баі вораг лез напралом,*
*Пляжыў усё без разбору.*
*Па небасхіле ж халодным дажджом*
*Падалі зоры.*

*Зноў паляцела – і я загадаў*
*Выйсці жывым з сутычкі.*
*Так неабачліва лёс свой звязаў*
*Я з тою знічкай.*

*Мне падалося – смерць абміне,*
*Час не прабіў памерці.*
*Раптам шалёная скочыла мне*
*Зорка пад сэрца…*

*Трасеры рэзалі ноч давідна,*
*Кроў залівала гоні.*
*Зорка яшчэ паляцела аднак –*
*Вам – на пагоны.*

*Падаюць з неба, як феерверк,*
*Хопіць на ўсіх, нават з гакам.*
*Каб не забіла, насіў бы цяпер*
*Зорку на фраку.*

*Я б тую Зорку даў патрымаць*
*Сыну – на шчасце.*
*Толькі вісіць яна ў небе дарма –*
*Некуды ўпасці.*

У.Высоцкі. (Пераклад Г.Станкевіча)

**ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ**

## СКРАНУЦЦА З МЁРТВАЙ КРОПКІ

Продзеш па Бешанковічах узімку з аднаго канца ў другі ці ў будні дзень, ці ў выходны і не стрэнеш ніводнага чалавека з лыжамі. А вось тых, хто нападпітку, калі пашанцуе, можаш сустрэць добры дзесятак. І нікому тое, здаецца, не кідаецца асабліва ў вочы. Мы ж – беларусы, талерантныя. Якая нам справа да нейчых праблем? Гуляюць у хакей? Няхай гуляюць. П’юць гарэлку? Няхай п’юць. Хаця, здавалася б, улада не павінна заплюшчваць вочы на такі стан рэчаў. Тым больш, што наш кіраўнік краіны – зацяты аматар хакею, не раз ці не ды выпускае чарговую дырэктыву аб барацьбе з п’янствам ды ўмацаванні дысцыпліны. Але пры нашай мясцовай уладзе ёсць людзі, што займаюць цёплыя крэслы дзесяткі гадоў. Яны перажылі ўжо дзесяткі падобных дырэктываў. І праводзіць у жыццё аніводную з іх не збіраюцца.

Скажам, у райцэнтры ёсць хакейная каробка. Яна адна-адзіная на амаль 9 000 насельнікаў райцэнтра. Здавалася б, каля яе мусіла б быць чарга жадаючых пагуляць у хакей. Адзін турнір мусіў бы змяняць другі. Толькі ў Бешанковічах 21-га стагоддзя такіх мерапрыемстваў не запланавана. Чамусьці ў Старых Ранчыцах, дзе ўсяго восем юнакоў, амаль штовечар на маленькай сажалцы кіпяць хакейныя жарсці. А ў райцэнтры хакей попытам не карыстаецца. Таму ў хакейнай каробцы так і не з’явіліся абяцаныя хакейныя вароты. Ды навошта тыя вароты? У Бешанковічах нават няма крамы, дзе ўзімку можна набыць хакейную клюшку. На маё пытанне, чаму іх няма ў “Культтаварах”, адна з прадавачак адказала, што “лыжы і клюшкі попытам у Бешанковічах не карыстаюцца, а таму мы іх не завозім”. Мне цікава толькі, гэта яе асабістыя погляд на названы спартовы рыштунак, ці яна агучыла меркаванне свайго начальства? А, можа, падобная пазіцыя супадае з пазіцыяй райвыканкаму, які мае спартыўны аддзел і нават нейкага начальніка па спорту?

Ды якая пазіцыя! Раён вымірае ад п’янства, райбальніца штозмену прымае ў коме дзесяткі алкаголікаў, на ўліку ў нарколага стаяць сотні бешанкоўцаў, а мы пачнём высвятляць, якая пазіцыя ў раённага выканаўчага камітэту?! Пазіцыя, зразумела, адна: дасядзець на пасадах да пенсіі. Калі б першая асоба раёна і яе шматлікія замы мелі іншую пазіцыю, то яны б знайшлі час пацікавіцца, чаму ў падуладных ім крамах цалкам адсутнічае спартовы інвентар для заняткаў зімовымі відамі спорта. А тыя лічаныя адзінкі, якія ёсць у продажы, маюць астранамічныя кошты. Дый саміх начальнікаў хацелася б хаця б раз на тыдзень убачыць, калі не на самой лыжні, то хаця б блізка каля яе. Лыжня тая ў горадзе, мусіць, адна ўсё ж ёсць – на спартовым стадыёне. Але каб не школа, дзе яшчэ не адмянілі фізкультуру, дык і лыжні той не знайшоў бы…

Калі ўлада, якую мы выбралі, не будзе праводзіць наступальную палітыку ў барацьбе з п’янствам, то раён праз нейкі час апынецца без здаровых людзей. Бо сёння ідзе актыўны наступ алкаголю на людзей усіх узростаў. Не займацца ў гэтай сувязі развіццём усіх магчымых відаў спорту проста злачынна. Толькі голас “Крывінкі” застаецца чамусьці самотным голасам у пустэльні.

**Г.Станкевіч.**

## ДЗЯРЖАЎНЫ ГАНДАЛЬ

16-га студзеня, раніца, пачатак дзевятай. Бешанковіцкі ўніверсам ветліва запрашае зайсці, пра што сведчыць напісаная на дзвярах аб’ява, за “самым вялікім асартыментам харчовых і нехарчовых тавараў”. Гандлёвая заля па-навагодняму ўпрыгожана: калядная ялінка свеціцца разнакаляровымі гірляндамі. На сцэны прыгожа ззяе “2013”. Ва ўніверсаме гарыць дзяжурнае святло. Але, нягледзечы на тое, што амаль чвэртка дзевятай, у памяшканні няма ніводнага прадаўца. Хаця рабочы дзень тут, як вядома, мусіць пачынацца роўна ў 8. Сумуюць складзеныя пірамідкай пакупніцкія кошыкі. Ціха, нібыта настаў той самы канец свету.

Пастаяўшы хвілін пятнаццаць блізу замкнёных дзвярэй, я вырашыла ехаць на працу без пакупак. Добра, хоць з дому нешта ўсё ж захапіла, не спадзеючыся на чужую ласку. Хаця, па вялікім рахунку, крамаў у Бешанковічах хапае, можна было б пашукаць і іншую. Гэтая ж спакушае найперш тым, што ты сам можаш выбраць сабе любы “з самага вялікага асартыменту” тавар. Але ў любой прыватнай краме прадавачкі лагоднейшыя і ветлівейшыя, чым тут. Здаецца, што ва ўніверсаме іх менш за іхніх начальніцаў, што не-не, ды выглянуць у гандлёвую залю. А, як вядома, дзе нянек многа, там дзіця бязнога. То бок, немагчыма дайсці да праўды.

Акрамя прывабнага размяшчэння ў цэнтры горада наш універсальны магазін мае, на жаль, вельмі мала іншых прывабнасцей. У гэтай краме я ніколі не купляю хлеб, бо тут пастаянна адсутнічае хлеб без абгорткі. А за яе, як вядома, прыходзіцца даплачваць больш 300 рублёў на буханцы хлеба. У гэтай краме заўсёды трэба даплачваць па 200 рублёў за поліэтыленавыя пакеты, у якія расфасаваныя яйкі, цукеркі, сухары і іншыя тавары. Тут ніколі не знойдзеш танных крупаў. Садавіна, якую нам прапаноўваюць, тут амаль заўсёды заляжалая, пачарнелая, нясвежая. Амаль заўсёды з дзвюх касаў, якія ёсць у наяўнасці, працуе толькі адна. Усё вышэйпералічанае і стварае негатыўную рэкламу монстру нашага дзяржгандлю. Пра тое цудоўна ведае наша раённае кіраўніцтва, але спадзявацца на нейкія змены не прыходзіцца. Чаму? Паспрабуйце адказаць самі.

**Л.Паўлава.**

## “КРЫВІНКА” Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты “Крывінка” на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/**, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html**, што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання.

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка.***

***Словам, сувенірам.***

УСПАМІНЫ

# ЁН БУДАВАЎ НАШ ХРАМ

Ад нас пайшоў Міхась Чарняўскі. Славуты археолаг, якому мы ўдзячныя за даследаванні Крывінскай стаянкі першабытнага чалавека. За цудоўныя кніжкі, якія вучаць нас любіць родную зямлю. За шчырасць і самаадданасць.

Я пазнаёміўся з ім у жніўні 2001-га гада, калі ён з сынам Максімам кіраваўся па прывычным маршруце на Крывінскі тарфянік, і дапамог ім дабрацца да Асаўца. Але спачатку мы правялі цудоўны вечар, дзе я быў на сёмым небе ад шчасця сустрэчы з незвычайным чалавекам. Дзядзька Міхась таксама быў рады нашаму знаёмству. Ён распытваў мяне пра вытокі маёй беларускасці, хваліў песні, што я спяваў. На маю просьбу ён пакінуў аўтограф на першым томе "Гісторыі Беларусі", у напісанні якой непасрэдна ўдзельнічаў. Там жа, пад "найлепшымі пажаданнямі ў Вольнай Беларусі шаноўнаму Спадару Георгію і яго мілай сямейцы", дзядзька Міхась пакінуў свой хатні адрас і тэлефоны. Шчыра прасіў завітаць пры нагодзе на гасціны, што ў мяне, на вялікі жаль, так і не атрымалася.

Пры чарговай сустрэчы ў наступным годзе дзядзька Міхась не забыўся пра майго васьмігадовага сына. Ён падараваў Антону сваю кніжку "Правадыр крылатых вершнікаў", дзе зычыў яму вырасці Крылатым Вершнікам Беларусі.

Менавіта з ягонай падачы я стаў слухачом "Радыё Свабода". (Дзядзька Міхась у сваіх экспедыцыях ніколі не разлучаўся з маленькім прыёмнікам, які заўсёды быў настроены на гэта радыё.) Ужо потым я даведаўся, што гэта ён, Міхась Чарняўскі, напрыканцы 80-х – пачатку 90-х уваходзіў у Аргкамітэты БНФ "Адраджэнне", Таварыства Беларускай Мовы і "Грамады". Што гэта ён таемна вывез успаміны Ларысы Геніюш "Споведзь", якія былі апублікаваны толькі ў часы незалежнасці.

Гісторык Ігар Кузняцоў лічыць, што самая галоўная заслуга Чарняўскага — што ён упершыню адкрыў праўду аб Мядзельскім і Смаргонскім моладзевым антысавецкім падполлі: "Чарняўскі першым адкрыў свету імя Расціслава Лапіцкага, расстралянага ў 1950-я гады. Ён згуртаваў вакол сябе ветэранаў пасляваеннага антысавецкага супраціву, ён у свой час выпускаў і бюлетэнь, і часопіс. Гэта яркая гістарычная постаць. І спецыяліста такога ўзроўню, ужо, напэўна не будзе. З ягонай стратай закрываецца пэўная старонака, нават эпоха. Усё сваё жыццё ён прысвяціў адраджэнню беларускай гісторыі. І ягоная спадчына яшчэ доўгія гады будзе запатрабаваная і маладымі гісторыкамі, і гісторыкамі старэйшага пакалення. І мы яшчэ не раз будзем спасылацца ў сваіх працах на ягоныя даследаванні".

Па словах рэжысёра Валера Мазынскага, які апошнія гады шчыльна працаваў з Міхасём Чарняўскім робячы фільм пра Расціслава Лапіцкага "Як пошуг маланкі", Міхась Чарняўскі "адзін з тых, хто будаваў наш Храм, збіраючы самыя, здавалася, нязначныя аскалёнкі нашай гісторыі і будаваў, будаваў… Ён жыў Бацькаўшчынай, як жывуць сям'ёй, сваім падворкам, удыхаючы кожную раніцу поўнымі грудзьмі гэта нашае паветра і ўглядаючыся ў кожны пагорак, што трапляў на вочы.

Колькі пасьпеў ён зрабіць! Гэты ціхі нетаропкі чалавек! Колькім людзям ён пасьпеў дапамагчы, колькі разумных парадаў ён даў, застаючыся заўсёды трошкі наводдаль… Відаць, так было лепш бачна яму і чалавека і яго ўчынкі. А колькі таямніц застанецца з ім?… Дзякаваць Богу, ёсць Максім, які для яго стаў самым вялікім скарбам, бо ён з лёгкай душой рыхтаваўся адыходзіць у лепшы Свет, перадаючы назапашанае за сваё жыццё сыну, і сапраўднаму нашчадку".

**Г.Станкевіч.**

НАША ЖЫЦЦЁ

# Прымусовая падпіска

Згодна ўстойлівых меркаванняў, якія распаўсюджаны ў нашым грамадстве, настаўнікі з'яўляюцца дзейснай апорай існага рэжыму. Яны, як людзі цалкам апалітычныя, ёсць асноўным рабочым інструментам для рознага кшталту выбарчых камісій. Яны ніколі не йдуць на канфлікты з уладай, бо баяцца страціць сваю працу.

Усё тое амаль што так, але, як вядома, з кожнага нават самага строгага правіла бываюць выняткі(выключэнні). Кантынгент нашых настаўнікаў таксама неаднародны. І з кожным годам ён набывае ўсё больш радыкальныя настроі. Настаўнікі становяцца ўсё больш здольнымі на пратэст, хаця б для пачатку і маўклівы. Пра тое можна меркаваць па выніках падпіскі на "Настаўніцкую газету" за студзень 2013-га года. З амаль паўтысячнай арміі настаўнікаў нашага раёна яе выпісала толькі 15 чалавек. І падобны стан справаў у бальшыні раёнаў Віцебскай вобласці, за выключэннем Верхнядзвінскага, Глыбоцкага, Міёрскага і Вушацкага.

Такі стан рэчаў не мог не ўстрывожыць абласную ўладу, што паспяшалася выдаць пастанову за № 27 ад 05.01.2013 "Аб выніках падпіскі на "Настаўніцкую газету". У ёй канстатуецца факт зніжэння колькасці індывідуальных падпісчыкаў па вобласці да 2224-х чалавек і падкрэсліваецца, што па выпісцы "НГ" Віцебская вобласць займае ўстойлівае апошняе месца ў рэспубліцы. У сувязі з гэтым неабходна эфектыўна арганізаваць ведамственную і індывідуальную падпіску на "НГ" на люты-чэрвень 2013-га, узяўшы ў разлік колькасць устаноў адукацыі і колькасць працуючых у іх педагогаў і давесці ўзровень падпіскі ў вобласці да 6 825 асобнікаў. Для Бешанковіцкага раёна даведзена колькасць "НГ" – 135 асобнікаў па індывідуальнай падпісцы.

Але ў гэтай пастанове няма ні слова аналізу прычын, чаму пераважная бальшыня настаўнікаў адмаўляецца выпісваць сваю прафесійную газету. Тое, што яна цікавая, застаецца па-за сумненем. Я асмелюся прапанаваць сваю версію трактоўкі падзеі. На маё глыбокае перакананне, падзенне цікавасці да газеты адбылося па простай прычыне. У скрозь русіфікаванай краіне "Настаўніцкая газета" засталася беларускамоўнай, і пераважна рускамоўным асяродку настаўнікаў чытаецца імі з цяжкасцю. Таму яе і выпісваюць без прымусу толькі ў заходніх раёнах Віцебшчыны, дзе адносіны да беларускай мовы зусім іншыя. Да прыкладу, у Глыбоцкім раёне, дзе беларуская мова мае глыбокія карані і аўтарытарнаму рэжыму яе няпроста зліквідаваць, колькасць падпісчыкаў і без прымусу склала 349 настаўнікаў! Амаль кожны настаўнік там выпісвае газету на роднай мове. І тое адбываецца, нягледзечы на даволі высокі кошт газеты. Падпіска яе на адзін месяц каштуе 33 000 рублёў. Прыклад глыбачан сведчыць пра тое, што нават у часы інтэрнэту папяровае выданне застаецца запатрабавальным.

Пераважная ж колькасць настаўнікаў, якая змушаная да выпіскі "НГ", чытаць газету ўсё роўна не будзе. І абласному аддзелу адукацыі хацелася б параіць прывіваць любоў да роднага слова не праз прымусовую падпіску і марнаванне сродкаў, а праз перавод усёй сістэмы адукацыі на родную мову.

Запатрабавальнай тады стане не толькі "Настаўніцкая газета", але і іншыя беларускія каштоўнасці, пахаваныя сёння дыктатурай.

**М.Васільеў.**



КАРТАТЭКА СТАЛІНА

# Застацца ў памяці

Як вы ўжо ведаеце з папярэдняга нумару "Крывінкі", штодзень на сайце "Свабоды" публікуецца тысяча імёнаў і кароценькія дадзеныя людзей, якіх знішчыў сталінскі рэжым. Хто гэтыя людзі? Пераважна беларусы, а таксама палякі, габрэі, рускія, ёсць і немцы. То бок усе тыя, хто насяляў Беларусь у тыя страшныя гады, і на чыю нявінную галаву апусціўся карны меч злачынцаў, якія тады кіравалі дзяржавай.

Каралі простых людзей. Сялян, якія былі аднаасобнікамі, каралі, мусіць, за тое, што яны не асабліва спяшаліся ў калгасы. Каралі настаўнікаў, бухгалтароў, леснікоў і дарожных майстроў, краўцоў, рабочых і нават хатніх гаспадыняў за неасцярожныя выказванні ў бок улады. Тое называлася антысавецкай агітацыяй. Каралі тых, хто неасцярожна выказваўся на адрас суседніх краінаў, пахваліў іхні лад. Калі людзі гуртаваліся, шукалі падтрымкі сяброў, то каралі ўжо ўсіх за прыналежнасць да міфічнай контррэвалюцыйнай арганізацыі.

Тыя людзі былі найчасцей сялянамі з пачатковай ці незакончанай пачатковай адукацыяй. Зрэдку сустракаюцца непісьменныя, або тыя, хто меў сярэднюю ці вышэйшую адукацыю.

З лёсамі некаторых людзей з нашага раёна я вас пазнаёмлю.

**Абраменка** Карп Рыгоравіч нарадзіўся ў 1884-м годзе ў вёсцы Крупеніна Сіроцінскага раёна. Селянін меў няскончаную пачатковую адукацыю і працаваў у калгасе "Герой" у вёсцы Марцінава Бешанковіцкага раёна. Быў арыштаваны 16 студзеня 1933-га года і асуджаны "тройкай" 30 красавіка таго ж года за антысавецкую агітацыю на 5 гадоў лагераў.

**Акуневіч** Георгі (Рыгор) Рыгоравіч нарадзіўся ў 1885-м годзе ў вёсцы Касарэўшчына. Селянін-беларус працаваў загадчыкам Будзілаўскага млына ў мястэчку Бешанковічы. 11-га сакавіка 1938-га года асуджаны пастановай НКВД СССР і Пракуратурай СССР як агент латвійскай выведкі і расстраляны ў Віцебскай турме 28 красавіка 1938-га года.

**Аляксёнак** Фама Язэпавіч нарадзіўся ў вёсцы Буднікі Пажарышчанскага сельсавета ў 1901-м. Рускі па нацыянальнасці селянін працаваў чорнарабочым у"Загатскоце" у вёсцы Стаськава Ганкаўскага сельсавета. 24-га чэрвеня 1941-га года быў арыштаваны за антысавецкую агітацыю і 11-га снежня асуджаны "асобай нарадай" на 10 гадоў лагераў. Адбываў пакаранне ў турме горада Горкі.

**Альшэўскі** Ахрэм Іванавіч нарадзіўся ў 1875-м годзе ў вёсцы Сватаўка Бешанковіцкага раёна. Селянін меў пачатковую адукацыю і працаваў калгаснікам калгаса "Карла Маркса" ў той жа вёсцы. 24-га кастрычніка 1932-га года быў арыштаваны, а 20 лістапада асуджаны "тройкай" на пяць гадоў лагераў за антысавецкую дзейнасць.

**Альшанка** Іван Ягоравіч(1887), Альшанка Ільля Нупрэевіч(1889) і Альшанка Канстанцін Нупрэевіч(1906) пражывалі ў вёсцы Пясочна (Пясочная, Пясочына або Пясочнікі) Бешанковіцкага раёна. Механік і двое рабочых працавалі на торфазаводзе "Гараднянскі мох". Іх арыштавалі ў ліпені 1937-га, а 9-га жніўня яны былі абвінавачаны ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі і асуджаны за антысавецкую агітацыю на 10 гадоў лагераў кожны.

Жыхар гэтай жа вёскі **Альшанка** Зміцер Міхалавіч (нарадзіўся ў 1893 ці 1899), меў сярэднюю адукацыю і служыў памочнікам санітарнага лекара 2-й Дзьвінскай санроты. Жыў у Віцебску на вуліцы Чычэрына д. 31. Арыштаваны 30-га верасня 1937. Асуджаны 22-га кастрычніка пастановай НКВД СССР і Пракурора СССР за дзейнасць у складзе «ПАВ» паводле арт. 64, 68, 70, 71, 76 да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 4-га лістапада 1937-га года у г. Віцебск.

**Альшанка** Мітрафан Іванавіч (нарадзіўся ў 1896) 9-га студзеня 1938-га года быў асуджаны за антысавецкую агітацыю да вышэйшай меры пакарання. Пра тое, ці быў ён растраляны, дакладных звестак няма.

**Гайсёнак** Ілля Уласавіч нарадзіўся ў 1868-м годзе ў вёсцы Высокая Гара Бачэйкаўскай воласці, беларус, з сялян. Меў няскончаную пачатковую адукацыю. Калгаснік калгаса імя Маркса ў вёсцы Заезьвіна Лепельскага раёна. Арыштаваны 06.01.1938. Асуджаны 08.01.1938 «тройкай» за тэрарыстычныя намеры паводле артыкула 72 Крымінальнага Кодэксу БССР да вышэйшай мервы пакарання. Расстраляны 05.02.1938.

**Галыня** Арцём Барысавіч нарадзіўся ў 1883-м годзе. Беларус, калгаснік у вёсцы Галыні Бешанковіцкага раёна. Арыштаваны 18 верасня 1937-га. Асуджаны 06.10.1937 «тройкай» за дзейнасць у складзе контррэвалюцыйнай групоўкі на 10 гадоў лагераў.

**Галькоўскі** Іван Рыгоравіч нарадзіўся ў1883-м годзе ў вёсцы Мураўшчына Бешанковіцкага раёна, беларус. Меў пачатковую адукацыю. Селянін-аднаасобнік на хутары Загуршчына Лепельскага раёна. Арыштаваны 01.03.1938. Асуджаны 10.03.1938 «тройкай» за антысавецкую дзейнасць паводле артыкула 72 КК БССР да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны 26.03.1938 у г. Менск.

**Галькоўскі** Міхал Ягоравіч нарадзіўся ў 1906-м годзе ў вёсцы Марцінава Бешанковіцкага раёна, беларус, з сялян. Меў пачатковую адукацыю. Працаваў калгаснікам у калгасе імя Калініна ў вёсцы Марцінава. Арыштаваны 06.12.1937. Асуджаны 28.12.1937 «тройкай» за антысавецкую дзейнасць паводле артыкулаў 72, 76 Крымінальнага Кодэксу БССР на 10 гадоў лагераў.

**Ткачонак** Аляксандр Кузьміч нарадзіўся ў 1897-м годзе ў мястэчку Бешанковічы. Селянін атрымаў пачатковую адукацыю і працаваў рабочым 11-га чарапічнага завода ў Віцебску. 28-га ліпеня 1937-га года быў арыштаваны, а 17-га жніўня асуджаны "тройкай" за антысавецкую дзейнасць. 25-га жніўня 1937-га года расстраляны ў Віцебскай турме.

**Харкевіч** Якаў Ігнатавіч(1876), нарадзіўся ў вёсцы Дробушава Вярхоўскага сельсавета Бешанковіцкага раёна. Беларус, меў пачатковую адукацыю. Селянін-аднаасобнік, вёў гаспадарку на хутары Казекіна Вярхоўскага сельсавета. Арыштаваны 05.07.1931. Асуджаны 27.08.1931 «тройкай» за антысавецкую агітацыю паводле артыкула 76 Крымінальнага Кодэксу БССР на 1 год лагераў. 16.12.1932 зноў арыштаваны, 30.04.1933 асуджаны «тройкай» за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі паводле артыкулаў 64, 72, 76 на 5 гадоў высылкі ў Казахстан.

Калі чытачам "Крывінкі" будзе цікава даведацца пра сваіх родных ці блізкіх, якія зніклі ў тыя страшныя часы, шукайце іх прозвішчы на сайце "Свабоды" або тэлефануйце на адрас рэдакцыі.

**Г.Станкевіч.**

*P.S. Тройка – орган пазасудовага вынясення прысудаў звычайна на ўзроўні вобласці. Складаўся з главы НКВД (НКУС), сакратара абкама і пракурора.*

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ПАМЯЦІ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА



РАНІШНІ ЗВАНОК УЛАДЗІМІРА АРЛОВА 20 СТУДЗЕНЯ ПРЫНЁС МНЕ СКРУШНУЮ НАВІНУ: ПАМЁР МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ. ВЕСТКА АБ СМЕРЦІ БЛІЗКАГА ЧАЛАВЕКА ЗАЎСЁДЫ АГЛУШАЕ. У ЯЕ ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ. ЦЯЖКА САБРАЦЦА З ДУМКАМІ. ЦЯЖКА НЕШТА ВЫМАВІЦЬ. А СКАЗАЦЬ АБАВЯЗКОВА ТРЭБА. І СКАЗАЦЬ УСЛЫХ. ДЛЯ ЎСІХ. НЕ ТОЛЬКІ ПА ПРАФЕСІЙНАМУ АБАВЯЗКУ ЖУРНАЛІСТА І РЭДАКТАРА.

З той, галоўнае, прычыны, што Міхась Чарняўскі — асоба, чые словы і справы ўжо аказалі ўплыў на развіццё беларускага грамадства, але не страцілі сваёй дзейснай актуальнасці. Гэтай справе ён прысвяціў усё сваё жыццё, аднак яна, на жаль, яшчэ не атрымала свайго лагічнага завяршэння.

Вучоны — гісторык, археолаг. Пісьменнік. Палітык. Грамадскі і культурны дзеяч. Гэта ўсё пра яго. І ўсе гэтыя азначэнні лёгка абагульняюцца пад адно: Міхась Чарняўскі — выбітны асветнік і дзеяч Беларускага Адраджэння канца XX — пачатку XXI стагоддзя. Адзін з яго архітэктараў, яго творцаў.

Свядома абраны шлях. Не скажу, што са школы, бо не ведаю, але дакладна — са студэнцкіх часоў, пра што чуў ад яго. «Нічога сур'ёзнага, — з уласцівай яму тонкай іроніяй, — жартаваў Міхась. — Так, асцярожна прашчупвалі адзін аднаго на інтарэс да беларушчыны, на жаданне размаўляць на беларускай мове. Своеасаблівая нефармальная кампанія, гурток, клуб па інтарэсах. Нацыянальная самаадукацыя. Праўда, падпольная. Бо добра ўсведамлялі, чым пагражае абвінавачванне ў нацыяналізме»...

Я толькі пачынаў свой шлях у навуку ў аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук, а Міхась ужо быў старшым навуковым супрацоўнікам. І вось — сход працоўнага калектыву: інфармацыя кіраўніцтва аб выкрыцці групы нацыяналістаў. Што ўразіла — патрабавання «крыві» Міхася Чарняўскага ў іх выступах не было. Як не было ў рэзалюцыі і патрабавання аб яго звальненні. Думаю, не па прычыне разумення нацыянальных прыярытэтаў, ад якога тагачасны склад навукоўцаў быў яшчэ вельмі далёка, а з павагі да Міхася Чарняўскага. Яго звольнілі на год па рашэнні бюро ЦК Кампартыі Беларусі на чале з Машэравым. У чымсьці таксама вымушаным — пад ціскам з Масквы.

Ужо пазней, калі мы шчыльна супрацоўнічалі з Міхасём на палітычным попрышчы, а менавіта, аднаўлення беларускай сацыял-дэмакратыі, я меў магчымасць пераканацца, як яго паважалі людзі самых розных поглядаў і пазіцый. І аднадумцы, і праціўнікі. Такім шчырым і добразычлівым ён быў у адносінах з людзьмі. Ён меў бясспрэчны маральны і інтэлектуальны аўтарытэт — для ўсіх, з кім зводзіў яго лёс, на ўсіх этапах жыцця і дзейнасці. Не выпадкова менавіта яму Ларыса Геніюш даверыла на захаванне сваю «Споведзь», якая была апублікавана ўжо ў час палітычных перамен у Беларусі.

Археалогія была пакліканнем Міхася Чарняўскага. Але адначасова і інструментам у справе беларускага Адраджэння. Прычым, ці не адзіна легальным у савецкіх умовах. Праз навуковыя і папулярныя працы, мастацкія творы ён адкрываў Беларусь старажытную. А калі сталася магчымым, першы адкрыў нам і тэму антысавецкага супраціву. «Як пошуг маланкі» — кніжка пра Расціслава Лапіцкага абрынула савецкі міф аб палітычнай еднасці савецкага рэжыму.

З навуковай сцяжыны Міхась ніколі не сыходзіў, нават ужо хварэючы, выбіраўся ў археалагічныя экспедыцыі. Планаваў іх і на гэтае лета. Але калі адчуваў мэтазгоднасць, якую вызначаў выключна па крытэру магчымай карысці беларускай справе, не гойдаючыся з галавой акунаўся ў практычную палітыку. Быў у ліку сябраў арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту. І ён жа першы, падчас працы ўстаноўчага з'езду БНФ у Вільні (24 чэрвеня 1989 г.) выказаў ідэю аб неабходнасці адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Паклаў шмат высілкаў і нерваў на аб'яднанне сацыял-дэмакратыі. На жаль, пакуль не атрымалася...

Здабыткі Міхася Чарняўскага застаюцца ў практычным арсенале беларускага дэмакратычнага адраджэнскага руху.

**Аляксей Кароль, "Новы час". Фота Арцёма Лявы.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

## НА «ПАГАЛОЎНУЮ» МАДЭРНІЗАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ НЯМА ГРОШАЎ

УРАД ДАРУЧЫЎ МІНФІНУ І МІНЭКАНОМІКІ ЗНАЙСЦІ ГРОШЫ НА МАДЭРНІЗАЦЫЮ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ. У МАТЭРЫЯЛАХ САЎМІНА РАНЕЙ ПАКАЗВАЛАСЯ, ШТО Ў 2013 ГОДЗЕ МАДЭРНІЗАЦЫЯЙ БУДЗЕ АХОПЛЕНА БОЛЬШ ЗА ТЫСЯЧУ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВАЎ. ДЛЯ РЭАЛІЗАЦЫІ ГЭТАК ГЛАБАЛЬНАЙ ЗАДАЧЫ СПАТРЭБІЦЦА НЕ АДЗІН МІЛЬЯРД ДАЛЯРАЎ. ДЗЕ ГЭТЫЯ ГРОШЫ ВОЗЬМЕ ДЗЯРЖАВА?

### Мільярды даляраў, якіх не відаць

Паводле заяў урада, «найважнейшым прыярытэтам» ў 2013 годзе з'яўляецца мадэрнізацыя прадпрыемстваў. Падчас селектарнай нарады, якую правёў Міхаіл Мясніковіч ў першыя дні студзеня, было заяўлена, што ў гэтым годзе неабходна будзе закупіць абсталяванне, каб паскорыць тэмпы абнаўлення вытворчых магутнасцяў краіны.

Дакладную суму, якая спатрэбіцца для вырашэння гэтак амбіцыйнай задачы, яшчэ трэба высветліць. Аднак сумнявацца ў тым, што сума гэтая будзе з многімі нулямі на канцы, не прыходзіцца. Дарэчы, мадэрнізацыя толькі мінпрамаўскіх прадпрыемстваў ацэньваецца ў 3,1 млрд. даляраў.

Галоўнае пытанне - дзе знайсці столькі грошай на такую маштабную мадэрнізацыю дзяржпрадпрыемстваў. Неэмісійных сродкаў, за кошт якіх можна было б прафінансаваць гэты праект, пакуль не відаць. Уласных сродкаў прадпрыемствам відавочна не хопіць. Паводле звестак Белстата, больш за палову прадпрыемстваў маюць нізкі ўзровень рэнтабельнасці (да 10%).

«У бюджэце неабходных сум на мадэрнізацыю не закладзена, крэдытныя рэсурсы па існуючым стаўках для прадпрыемстваў недаступныя. Зыходзячы з рэйтынгаў краіны і палітычных рызык, магчымасці прыцягнуць крэдыты ў рамках замежных крэдытных ліній таксама абмежаваныя », - кажа эксперт Naviny. by ў фінансавых колах.

У прагнозных дакументах на 2012 год закладвалася, што за кошт прыватызацыі краіна атрымае 2,5 млрд. даляраў. Па факце атрымалася прыцягнуць ад продажу акцый дзяржпрадпрыемстваў толькі 1,8 млн. даляраў. Таму разлічваць, што за кошт прыватызацыі атрымаецца прыцягнуць грошы на мадэрнізацыю, таксама не даводзіцца.

Тым не менш, ад планаў па мадэрнізацыі дзяржава наўрад ці адмовіцца, паколькі выкананне гэтых планаў прама ўвязана з выкананнем шэрагу дырэктыўных паказчыкаў. Як адзначаў восенню Міхаіл Мясніковіч, «калі мы не забяспечым пагалоўную мадэрнізацыю прадпрыемстваў», то «выходзіць на паказчыкі 2013 года і пяцігодкі будзе вельмі складана».

**Дзмітрый ЗАЯЦ, "Белапан".**

НАША ЎЛАДА

## «ДЗЯРЖАЎНЫ» РОЗУМ

ДЗЕ ЯШЧЭ, У ЯКОЙ КРАІНЕ НА ВЫШЭЙШАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАСАДЗЕ МОЖНА ПАБАЧЫЦЬ СТРАТЭГА З ТАКІМ УЗРОЎНЕМ ДЗЯРЖАЎНАГА МЫСЛЕННЯ?

"Вы кажаце, што нешта трэба рабіць з чэргамі ў паліклініках... Давайце ўвядзём плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі".

Трэба знайсці грошы на фінансаванне вышэйшай адукацыі? Ён, гэты дзяржаўны стратэг, таксама ведае, як вырашыць складанае пытанне. "Давайце з вамі дамовімся на наступны навучальны год: па тых спецыяльнасцях, дзе назіраецца перавытворчасць кадраў, дзе моладзь гэтая акалічнасць мала турбуе, пралічвайце сабекошт падрыхтоўкі, дадавайце працэнты прыбытку, якія самі палічыце вернымі, і называйце суму. Мы ўсе жывём ва ўмовах рынку. І калі малады чалавек, нягледзячы ні на што, хоча вучыцца менавіта на гэтай спецыяльнасці, то няхай будзе гатовы выкласці названую суму". ...

Толькі Аляксандр Лукашэнка заікнуўся — стратэг адразу даў адказ, як вырашыць даўнюю і балючую праблему павышэння заробкаў выхавацелям дзіцячых садкоў. "Я прапаную разгледзець пытанне аб тым, каб бацькі плацілі нейкі працэнт ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садку... Вядома, мы б хацелі, каб бацькі аплачвалі хоць бы поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, але ў бліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60—70 працэнтаў аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на павышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць павышэнню якасці адукацыйнага працэсу".

Усе вышэйпрыведзеныя цытаты належаць аднаму чалавеку. І гэты чалавек — намеснік старшыні ўрада, які адказвае за сацыяльны блок, Анатоль Афанасьевіч Тозік. Гісторык па адукацыі, які ўдасканальваў свае веды на вышэйшых курсах КДБ, проста фантануе рэцэптамі "выпраўлення сітуацыі" і "паляпшэння жыцця людзей". Але ад усіх хвароб у яго рэцэпт адзін: як мага больш садраць з простага чалавека....

Ці хоць раз спадар Тозік выступіў з абурэннем тымі мізэрнымі заробкамі, з якіх многія людзі не тое што заняткі дзіцяці ў нейкім гуртку не могуць аплаціць — жыць не маюць за што? Лайдакі, якія не хочуць працаваць, — гэта адна праблема. Але ж галоўная бяда нашай краіны, што нават многія з тых людзей, якія працуюць няблага, не могуць выбіцца на лепшае жыццё. Каб не сказалі, што я ачарняю рэчаіснасць, спашлюся на нядаўні матэрыял "Гомельскай праўды" (афіцыйнай газеты Гомельскага аблвыканкама), дзе апісваўся рэйд мабільнай групы па прадпрыемствах Добрушскага раёна. "Колькі зарабляеце ў месяц?" — запыталіся начальнікі на адным з аб'ектаў. І пачулі ў адказ: "За 320 рабочых гадзін — 1 мільён 300 тысяч рублёў".

Вы ўяўляеце, што такое 320 рабочых гадзін? Гэта болей чым па 10 гадзін штодзённа, без выходных. І што чалавек мае?.. Пры такіх заробках бацькоў і дзіцячыя садкі, і гурткі, і спартыўныя секцыі, і экскурсіі для дзяцей увогуле павінны быць БЯСПЛАТНЫМІ, каб не выраслі дзеткі маральнымі і культурнымі калекамі. Бо з такіх грошай добрую кніжку не купіш, не тое што не заплаціш за нейкія дадатковыя заняткі.

Але спадар Тозік робіць выгляд, што няма ў краіне праблемы жабрацкіх заробкаў. Ну проста лопаюцца ў людзей ад грошай кішэні і кашалькі, таму Анатоль Афанасьевіч заладзіў адну песню: "Плаціце, плаціце, плаціце..."

А калі няма чым плаціць? У каго ёсць грошы, у тых дзеці даўно ходзяць у камерцыйныя садкі, спецыяльныя школы і прыватныя медыцынскія цэнтры. Але ці задумаўся віцэ-прэм'ер, што ў нашай краіне трэба неяк выжываць і тым, у каго, як ні стараюцца, такіх даходаў няма?

Тым больш што людзі ўжо заплацілі! І за бясплатную медыцыну, і за бясплатную адукацыю. Заплацілі сваімі падаткамі. Вось толькі не туды пайшлі іх грошы. Так, агульнадзяржаўныя расходы (гэта ўтрыманне прэзідэнта, урада, судоў, пракуратур, міліцыі, КДБ і т.п.) у 2006 годзе складалі 32,84% дзяржаўнага бюджэту, а ў мінулым годзе — ужо 52,65%. Затое выдаткі на сацыяльную палітыку ў тым жа 2006 годзе былі ў межах 9,33% дзяржбюджэту, а ў 2012-м — толькі 6,83%. Але не абураецца гэтым віцэ-прэм'ер Тозік, не бачыць хібаў у тым, што чыноўніцтва і сілавікі дзеляць агульныя народныя грошы на сваю карысць. Наадварот, ён настойліва стаіць на тым, што для вырашэння большасці праблем трэба садраць грошы з бедных. Разлік тут ёсць, і ён просты: грошай у небарак зусім не шмат, затое бедных — процьма.

Але самае дзіўнае, што за такі "дзяржаўны розум" спадара Тозіка пасады не пазбавяць, хаця ў любой іншай краіне так бы і было. А ў нас наадварот. Можа, яшчэ Героя Беларусі дадуць...

**Святлана КАЛІНКІНА, "Народная Воля".**

НАША ДАТА

# БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ СВЯТА

НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СТУДЭНЦКІМ СВЯТАМ МАЕ БЫЦЬ ДЗЕНЬ СТВАРЭННЯ ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА. ТАЦЯНІН ДЗЕНЬ НЯ МАЕ НІЯКАГА ДАЧЫНЕНЬНЯ ДА СЬВЯТАЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА, ПЕРАКАНАНЫ ГІСТОРЫК І ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ АЛЕГ ТРУСАЎ.

Гэтым днём павінна лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя аб утварэнні Віленскай акадэміі.

"Калі расейская імпэратрыца Лізавета Пятроўна падпісала амаль 260 гадоў таму ў дзень вялікамучаніцы Тацяны загад аб стварэньні Маскоўскага ўнівэрсытэту, Беларусь жыла ў сваёй незалежнай краіне. І Тацянін дзень ня мае ніякага дачыненьня да сьвятаў беларускага студэнцтва,

расказаў вядомы гісторык і грамадзкі дзеяч Алег Трусаў.

Указ Лізаветы Пятроўны пра стварэньне Маскоўскага ўнівэрсытэту датуецца 25 студзеня 1755 году, пасля чаго беларускія землі яшчэ паўстагодзьдзя заставаліся незалежнымі ад Расейскае імпэрыі. Таму сьвяткаваньне гэтак званага Тацянінага дня ў сёньняшняй Беларусі ёсьць вынікам сьвядомага навязваньня нашай моладзі чужых традыцыяў, гаворыць Алег Трусаў: «Калі людзі ня ведаюць гісторыі, то тады яны трапляюць у сьмешныя сытуацыі. Калі ствараўся Маскоўскі ўнівэрсытэт, Беларусь не ўваходзіла ў Расейскую імпэрыю. Таму ніякага дачыненьня Тацянін дзень да Беларусі ня мае ні зь якога боку».

У беларускіх студэнтаў за сваё нацыянальнае студэнцкае сьвята мае быць дзень стварэньня Віленскага ўнівэрсытэту, які да Лізавецінскага ўказу налічваў ужо амаль 200-гадовую гісторыю і быў найстарэйшым ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Гэта, дарэчы, прызнавалася нават за савецкай уладай, гаворыць Алег Трусаў: «Яшчэ калі існаваў Савецкі Саюз, усе ведалі, што самы старажытны ўнівэрсытэт на тэрыторыі СССР — гэта Віленскі. І літоўцы ў свой час дабіліся, што 400-гадовы юбілей Віленскага ўнівэрсытэту сьвяткаваўся ва ўсесаюзным маштабе. Была нават выдадзеная паштовая марка Савецкага Саюзу з выявою галоўнага корпусу ўнівэрсытэту і датаю — 400 гадоў».

Віленскі ўнівэрсытэт створаны паводле прывілею караля Стэфана Баторыя, выдадзенага ў 1578 годзе. Але афіцыйнаю датаю ягонага адкрыцьця лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя. На двух факультэтах Віленскага ўнівэрсытэту выкладаліся ўсе на той час прыродазнаўчыя і гуманітарныя дысцыпліны. Абавязковымі для ўсіх студэнтаў былі клясычныя мовы — грэцкая, лацінская і габрэйская; новыя — нямецкая і француская, і мова дзяржаўнага справаводзтва ВКЛ — беларуская.

**"Радыё Свабода".**

САЦЫЯЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА. ДЗЯРЖАВЕ ПАРА ГУЛЯЦЬ НА АПЯРЭДЖАННЕ

ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК БЕЛСТАТА, КОЛЬКАСЦЬ ПЕНСІЯНЕРАЎ У КРАІНЕ ДАСЯГНУЛА 2,5 МІЛЬЁНА. СООТНОШЕНИЕ КОЛЬКАСЦІ ПРАЦУЮЧЫХ ДА ПЕНСІЯНЕРАЎ ЗМЕНШЫЛАСЯ ДА 1,5. БЕЛАРУСКІМ УЛАДАМ САМЫ ЧАС СУР'ЁЗНА ЗАДУМАЦЦА ПРА ЗМЕНЫ Ў ПЕНСІЙНАЙ СІСТЭМЕ.

**Але ці пойдзе кіраўніцтва краіны на пенсійную рэформу?**

Пра тое, што пенсійнай сістэме патрэбна рэформа, незалежныя эксперты казалі даўно. Ды і самі ўлады, хутчэй за ўсё, разумеюць гэта, але замахнуцца на святое для народа ў шкоду сабе не хочуць. Аднак сітуацыя ў гэтай сферы складваецца так, што ў бліжэйшы час кіраўніцтву краіны прыйдзецца задумацца аб непапулярных кроках.

Нягледзячы на тое, што ў 2012 годзе Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) атрымалася сфармаваць з прафіцытам, ужо да 2014 году, па прагнозах Сусветнага банка, ФСАН можа сутыкнуцца з дэфіцытам.

У кіраўніцтва краіны ёсць некалькі варыянтаў гульні на апярэджанне. Кожны з іх утрымлівае меры, якія будуць вельмі хваравітыя для ўладаў, так як прадугледжваюць шэраг эканамічных і палітычных рызык.

**Павысіць пенсійны ўзрост - апошняе, на што пойдзе кіраўніцтва краіны**

Этап, які праходзілі практычна ўсе еўрапейскія краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту. Гэтая мера выключна нежаданая для ўладаў, бо, па сутнасці, гэта ўдар у самае сэрца беларускай ідэалогіі, разбурэнне патэрналісцкага міфа. У рыторыцы прэзідэнта і іншых службовых асоб не раз гучаў тэзіс аб тым, што ў адрозненне ад нашых заходніх і ўсходніх суседзяў Беларусь - сацыяльная дзяржава для народа, і таму ўлады не пойдуць на такі крок.

Яшчэ ў красавіка 2012 года Аляксандр Лукашэнка загаварыў пра неабходнасць рэфармавання сістэмы пенсійнага забеспячэння, але без павелічэння пенсійнага ўзросту: «Удасканальваючы пенсійную сістэму, мы адкідаем варыянт, па якім пайшлі Еўропа, Украіна, іншыя краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту».

І на самай справе, падвышаючы пенсійны ўзрост, улады будуць секчы сук, на якім сядзяць: у электарацe Лукашэнка шмат людзей перадпенсійнага ўзросту і пенсіянераў. Павелічэнне ўзросту выхаду на пенсію напэўна негатыўна адаб'ецца на і без таго не занадта высокім сёння рэйтынгу прэзідэнта.

Такім чынам, на павышэнне пенсійнага ўзросту ўлады ў агляднай перспектыве (па крайняй меры, да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года) наўрад ці пойдуць. Як і іншыя наспелыя праблемы, гэтую ўлады вырашылі адсунуць на потым.

Яшчэ адным малаверагодным варыянтам скараціць магчымы дэфіцыт ФСАН з'яўляецца памяншэнне памеру пенсіі. Такі ход падзей, можа, і не выкліча сацыяльны выбух, але масавая незадаволенасць будзе забяспечана. Пенсіі ў Беларусі і так вельмі сціплыя.

Так, сярэдні памер пенсіі па ўзросце ў 2012 годзе склаў 182,6 даляра. Плануецца, што ў 2013 годзе паказчык узрасце да 218,1 даляра ў эквіваленце. Аднак пакуль абяцанае на лютые павышэнне пенсіі адменена - на гэта няма грошай.

Акрамя таго, улічваючы сярэднюю працягласць жыцця ў краіне (мужчыны - 66 гадоў, жанчыны - 77), можна канстатаваць, што многія беларусы не паспяваюць ў поўнай меры скарыстацца і гэтымі сродкамі.

**Улады ахвяруюць эфектыўнасцю, каб залатаць дзіркі**

Не з'яўляецца магчымым рашэннем праблемы і павышэнне падатковых адлічэнняў у ФСАН. У іншай сітуацыі ўлады, можа быць, і скарысталіся б такім спосабам, але не цяпер, ды і памерам адлічэнняў расці няма куды.

Цяпер яны складаюць 35% ад фонду заработнай платы, прычым асноўны цяжар - 34% - ляжыць на наймальніку. У выпадку ж калі наймальнік з'яўляецца і работнікам і працадаўцам, памер падаходнага падатку і выплат у ФСАН можа перавысіць 50% ад заробку.

Такі ўзровень адлічэнняў працадаўцаў з'яўляецца адным з самых высокіх у свеце. Акрамя таго, ён штурхае да ўтойванню рэальнага памеру даходу. Як правіла, наймальнікі зніжаюць афіцыйныя лічбы, выкарыстоўваюць схему зарплаты ў канверце. Такое становішча рэчаў паказвае неэфектыўнасць сённяшняй сістэмы сацыяльнага забеспячэння ў цэлым.

Хутчэй за ўсё, для падтрымання ўзроўню пенсійнага забеспячэння без павышэння ўзросту выхаду на пенсію ўлады паспрабуюць абысціся малой крывёю і пойдуць на датаванне ФСАН, напрыклад, за кошт пазабюджэтных крыніц.

Для павышэння эфектыўнасці пенсійнай сістэме патрэбныя рэформы. Нясмелы крок улады зрабілі, даўшы магчымасць дыферэнцыраванага павышэння пенсіі за кошт больш позняга выхаду на яе. Такія меры прадугледжвае ўказ прэзідэнта № 136 ад 18 сакавіку 2012 «Аб мерах па ўдасканаленні пенсійнага забеспячэння грамадзян».

Аднак гэтага недастаткова. Неабходна развіваць сістэму пенсійнага страхавання, пераходзіць да назапашвальнай сістэмы пенсійнага забеспячэння і пераразмеркавання цяжару выплат у ФСАН паміж наймальнікам і працаўніком.

**Мікіта Бяляеў, naviny.by.**

НАША ГРАМАДСТВА

# НАВАПАЛОЦКІ КАНТРАЛЁР, ЯКУЮ ЦЯГАЛІ ЗА ВАЛАСЫ, ЗМЯНІЛА ПРАЦУ

ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ Ў НАВАПОЛАЦКІМ АЎТОБУСЕ КАНТРАЛЁР ЛЮДМІЛА ШАХЛІНА ЗМЯНІЛА ПРАЦУ. А АБВІНАВАЧАНЫ, ЯКІ НАНЁС ЁЙ ТРАЎМЫ, ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАПАРАСІЎ ПРАБАЧЭННЯ.

"Людміла Іосіфаўна напісала заяву. Пасля таго інцыдэнту яна працаваць на былым месцы чыста маральна не змагла, — распавядаюць у ідэалагічным сектары аўтапарка №6 г. Наваполацка. — Цяпер яна працуе ў нас, але на іншай пасадзе".

Відэа скандальнага інцыдэнту ў наваполацкім аўтобусе разышлося па інтэрнэце напрыканцы лістапада. Людміла Шахліна (так гучыць яе сапраўднае прозвішча) даволі жорстка спрабавала спагнаць штраф з сям'і — мужа, жонкі і двaix малых дзяцей. За сям'ю заступіўся 22-гадовы грамадзянін, які схапіў кантралёра за валасы і нахіліў, траўмаваўшы той шыю.

Відэаролік здарэння выклікаў спрэчкі: ці законна дзейнічала кантралёр і хто гэты хлопец — хуліган ці Робін Гуд.

"Ведаем, што была вочная стаўка, якая ні да чаго не прывяла, — працягваюць распавядаць у ідэалагічным сектары аўтапарка. — Выбачэнні не былі атрыманы. Грамадзянін Мікалай Б. не збіраецца прасіць прабачэння".

"Проста спрабуюць закрыць гэту справу за недаказанасцю нейкай. Вырашаецца, ці мы пойдзем на нейкае прымірэнне, ці справу накіруюць у суд", — выказваецца Людміла Іосіфаўна.

Верагодна, ужо найбліжэйшым часам мы даведаемся пра развязку скандальнага здарэння ў наваполацкім аўтобусе.

У сапраўдны час следства працягваецца. Тэрмін заканчваецца ў панядзелак 28-га студзеня. Пра прынятае працэсуальнае рашэнне мы паведамім дадаткова.

**Яўген Валошын, "Еўрарадыё".**

НАШ ГЕРОЙ

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ БЕЛАРУСКАГА СЭРЦА

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ПЕРШЫ ЗАСТУПНІК ЗА БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА, ВЕРУ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НАШАГА КРАЮ — СТАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГЕРОЕМ НЕ АД ТАГО, ШТО ТАК ПАСТАНАВІЛІ РАДА БНР АБО ЦК КПБ. ЯГОНЫ ВОБРАЗ ВЯЛІКАГА СПРАВЯДЛІВАГА ПАКЛАЎСЯ НА БЕЛАРУСКУЮ ДУШУ, КУДЫ Б СКІРАВАНАЮ ЯНА НІ БЫЛА. ЯГО ПРЫНЯЛІ І КАМУНІСТЫ І НАЦЫЯНАЛІСТЫ І ПРОСТА БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ.

У мінулую вайну савецкі партызанскі атрад імя Каліноўскага мог спаліць вясковую школку толькі за тое, што настаўнік выкладае дзеткам зьмест «Мужыцкае праўды»: «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе»…

Мноства вядомых вершаў, раманаў і нават пачатак беларускага кінэматографу — пра яго.

Супраць яго, прызнанага беларусамі ўсіх адценьняў, веравызнаньняў і палітычных поглядаў, можа быць толькі небеларус, толькі нехта з-за межаў нацыі, чужынец.

Як той масквіч, што фундаваў у Менску эрпэцэшную царкву на вуліцы Каліноўскага і назву вуліцы патрабаваў зьмяніць. Улады знайшлі кампраміс (не замахнуліся на імя Справядлівага) — перайменавалі толькі частку вуліцы з гэтай самай царквою.

Каліноўскага нельга не любіць, калі ты беларус. Гэтае імя мацнейшае за кожны іншы знак нашае тоеснасьці. У Беларусі ўсе ад вясковай бабулькі да экзальтаванага сталічнага школьніка, ад бамжа да пасьпяховага бізнэсоўца, ад рэжымнага чыноўніка да дысыдэнта скажуць табе, што Каліноўскі — наш.

Што хаваецца за гэтым фэноменам? Думаю, глыбока схаваная ў душы ўзаемнасьць.

Выпускнік Пецярбурскага ўнівэрсытэту вяртаецца на радзіму і становіцца лідэрам «польскага» паўстаньня ў сваім краі. Выдае першую беларускамоўную газэту. Шукае паразуменьня з простым народам. Ані каліва няшчырасьці або «прагматызму». І — што б ні гігікалі цяперашнія афіцыёзьнікі — ідзе на эшафот.

Як Хрыстос.

Чысты, беззаганны, сымбаль справядлівасьці. Тут паралель робіцца абсалютнай. Пілат паслаў Хрыста на самую ганебную сьмерць — расьпяцьце на крыжы. Так каралі толькі бандытаў. Расейскі губэрнатар Мураўёў паўтарыў тое самае з Каліноўскім.

Замест расстрэлу, які «належаў» ваеначальніку ўсяе Беларусі і Літвы, ён у апошні момант загадаў Каліноўскага павесіць. Як бандыта. І як Хрыстос аб'яднаў і аб'ядноўвае розных людзей у супольнасьць Людзі, так Каліноўскі аб'ядноўвае супольнасьць Беларусы.

«Дэгераізаваць» яго для нашага народу — тое самае, што для чалавецтва «дэгераізаваць» Хрыста. А гэта значыла б зьнішчыць у нашых дачыненьнях паняткі справядлівасьці, шчырасьці і сумленьня, што ўвасобленыя найперш у постацях Хрыста і Каліноўскага, і гадаваць нашчадкаў, не абцяжараных гэтымі якасьцямі.

У адрозьненьне ад сымболікі і мовы, якія на вуліцах і ў эфірах яшчэ можна чымсьці замясьціць, на месцы спляжанага нацыянальнага героя ў беларускім сэрцы застаецца пустата.

**Сяргей Дубавец, Радыё Свабода.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 30.01.2013 у 16.30.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.